


# Беларус

**№ 369 Красавік 1990**
Год выд. XXXIX

**BIELARUS** / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $ 2.00


***Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!***
*Францішак Багушэвіч (1840-1900)*

## 72-Я ЎГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БНР

**МЕНСК**

*Выдаваная ў Нью-Ёрку газэта «Новое Русское Слово» (5.IV) перадрукавала з маскоўскае незалежнае публікацыі «Экспресс-хроника» гэткае паведамленьне:*

25 сакавіка ў Менску адзначалася 72-я гадавіна абвешчаньня Беларускай рэспублікі. Увечары 24 сакавіка па тэлебачаньні выступілі лідэры Беларускага Народнага Фронту Пазьняк, Хадыка і Марачкін, якія паведамілі, што плянаваны БНФ мітынг на плошчы Леніна не дазволены гарвыканкамам.

Цэнтар гораду зьвечару 24 сакавіка быў акружаны міліцыяй і войскамі спэцпрызначэньня.

Зраньня 25 сакавіка на плошчы Леніна пачалі зьбірацца людзі. Пасобныя групы іх разганяліся міліцыяй і пераходзілі ў парк імя Янкі Купалы. Каля 14-й гадзіны быў затрыманы сябра сойму БНФ В. Сядоў, які нёс бел-чырвона-белы сьцяг. Сядоў быў дастаўлены ў Фрунзенскі РАУС, кіраваў затрыманьнем падпалкоўнік М. І. Цітавец. А 12-й гадзіне каля будынку Тэатральна-мастацкага інстытуту быў затрыманы студэнт Тэхналягічнага інстытуту Аляксандар Пушкін, які разгарнуў плякат «Новаабраныя дэпутаты! Кожны крок — да незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі!» Пасьля затрыманьня яго студэнты ўзьнялі над дахам інстытуту беларускі сьцяг. (А. Пушкін быў засуджаны на два гады ўмоўна за правядзеньне аналягічнай акцыі 25 сакавіка летась).

Сьвяткаваньне Дня незалежнасьці працягвалася ў парку імя Янкі Купалы пад лёзунгам «Беларусь савецкая — Беларусь бяз будучыні».

Раённыя рады БНФ арганізавалі мітынгі ў шэрагу раёнаў места. Адзін зь іх — на плошчы Парыжскае Камуны — сабраў каля 10 тысячаў чалавек.

*(Працяг на 7-й б.)*

## ЗВАРОТ

### БЕЛАРУСАЎ АМЭРЫКІ ДА БЕЛАРУСАЎ НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

**Дарагія Суродзічы!**

**Да Вас зьвяртаюцца амэрыканскія Беларусы, удзельнікі праведзеных 25 сакавіка 1990 г. ў гарадох Нью-Брансьвіку (штат Нью-Джэрзы), Кліўленьдзе (Агаё), Лёс-Анджэлесе (Каліфорнія), Чыкага (Ілiной), Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзы), Рычманд-Гіле (Нью-Ёрк) урачыстых сходаў, прысьвечаных 72-ім угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.**

**Мы перадаём Вам нашы найшчырэйшыя прывітаньні і пажаданьне, каб сёньняшні працэс дэмакратызацыі, аднаўленьня сувэрэнных правоў Беларусі, адбудовы ейнае эканомікі й нацыянальнае культуры, замацаваньня дзяржаўнага статусу беларускае мовы, — каб усё гэта дало як мага хутчэйшы ды багацейшы плён.**

**Мы дэкляруем Вам, што будзем намагацца ўсімі даступнымі нам годнымі сродкамі дапамагаць Беларускаму нацыянальнаму Адраджэньню палітычна, эканамічна й маральна. Сёньня мы яшчэ больш адчуваем сябе часткай усяго Беларускага Народу, які ў спрыяльнейшых цяпер абставінах публічнасьці й перабудовы стаў на шлях вяртаньня да сваіх спрадвечных каранёў, традыцыяў, культурных вартасьцяў, ідэалаў індывідуальнае свабоды, правоў чалавека, добрасуседзкага сужыцьця зь іншымі нацыянальнасьцямі і мірных дачыненьняў з суседнімі народамі — тое, што ставіла перад сабой свайімі трыма Ўстаўнымі Граматамі ў 1918 годзе Рада Беларускае Народнае Рэспублікі.**

Мы выказваем адначасна нашу занепакоенасьць вынікамі чарнобыльскае катастрофы, адчуваем глыбокі смутак з поваду гэтае нацыянальнае трагедыі Беларусі і намагаемся арганізаваць дапамогу мэдыкамэнтамі, мэдычнымі прыладамі, кантактамі — усімі даступнымі нам шляхамі, каб памагчы тым, хто пацярпеў ад радыяцыі.

Мы заклікаем дэпутатаў Вярхоўнага Савету БССР дэлегаваць каго-небудзь спаміж сябе, хто салідарызуецца зь Беларускім Народным Фронтам ці Беларускім Дэмакратычным Форумам, да нас у Злучаныя Штаты, каб правесьці тут і ў Канадзе адпаведныя сустрэчы з афіцыйнымі чыньнікамі і прыватнымі групамі з мэтай паінфармаваньня аб радыяцыйным палажэньні на Беларусі, а праз гэта — узмацненьня акцыі дапамогі ахвярам Чарнобыля.

Мы верым, што адраджэнскія сілы ў Беларусі выявяць у сёньняшнім паваротным часе глыбокае разуменьне ўнікальнасьці шанцу, які Гісторыя дае нашаму народу, каб ён мог узьняцца да вышыняў нацыянальнага існаваньня, да якіх заклікае ўсіх нас вешчы геніі Янкі Купалы.

Няхай-жа ўсе Беларусы, дзе-б яны ні жылі, салідарна падтрымваюць дэмакратычныя тэндэнцыі нацыянальнага Адраджэньня, не шкадуючы сродкаў і асабістых намаганьняў у працы на карысьць справы свабоды, незалежнасьці, дабрабыту роднае Беларусі, усіх ейных жыхароў.

Жыве Беларусь!

## ПРАКЛЯМАЦЫЯ ДНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў НЬЮ-ЁРКУ

*Office of the Mayor*
*of the*
*City of New York*

**Proclamation**

WHEREAS: DURING THE PAST CENTURY, THE BYELORUSSIANS WHO HAVE IMMIGRATED TO NEW YORK HAVE CONTRIBUTED TO THE VITALITY AND DIVERSITY OF OUR CITY; AND

WHEREAS: THEIR DETERMINATION FOR JUSTICE SERVES AS AN INSPIRATION TO FREEDOM-LOVING PEOPLE EVERYWHERE; AND

WHEREAS: MARCH 25, 1990 MARKS THE 72ND ANNIVERSARY OF THE PROCLAMATION OF THE BYELORUSSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC; AND

WHEREAS: NEW YORKERS OF BYELORUSSIAN DESCENT CELEBRATE THIS EVENT ANNUALLY WITH ACTIVITIES THAT SUSTAIN THE SPIRIT OF A FREE BYELORUSSIA AND PRESERVE AND PROMOTE THE TREASURES OF THE BYELORUSSIAN LANGUAGE AND TRADITIONS,

NOW THEREFORE, I, DAVID N. DINKINS, MAYOR OF THE CITY OF NEW YORK, IN RECOGNITION OF THE MANY CONTRIBUTIONS MADE BY BYELORUSSIAN-AMERICANS TO THE DIVERSITY AND VITALITY OF OUR CITY, DO HEREBY PROCLAIM SUNDAY, MARCH 25, 1990 IN THE CITY OF NEW YORK AS

"BYELORUSSIAN INDEPENDENCE COMMEMORATION DAY"



IN WITNESS WHEREOF I HAVE HEREUNTO SET MY HAND AND CAUSED THE SEAL OF THE CITY OF NEW YORK TO BE AFFIXED.

DAVID N. DINKINS
MAYOR

*(пераклад тэксту праклямацыі)*

**На працягу мінулага стагодзьдзя Беларусы, якія імігравалі ў Нью-Ёрк, зрабілі ўклад у энэргію і шматстайнасьць нашага места; іхная стойкасьць у абароне справядлівасьці служыць паўсюдна натхненьнем іншым свабодалюбным людзям.**

**Паколькі на дзень 25 сакавіка 1990 году прыпадаюць 72-я ўгодкі абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі і ньюёркаўцы беларускага паходжаньня адзначаюць гэтае сьвята штагоду праграмамі, што падтрымваюць дух свабоднае Беларусі і захаваньне ды пашырэньне багацьця беларускае мовы й традыцыяў, я, Дэйвід Дынкінс, мэр места Нью-Ёрку, у знак прызнаньня вялікага ўкладу, зробленага Амэрыканцамі беларускага паходжаньня ў шматстайнасьць і энэргію нашага места, абвяшчаю гэтым дзень 25 сакавіка 1990 году Днём ушанаваньня беларускае Незалежнасьці.**

## *ПАРТЫЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ*

Ініцыятыўная група апублікавала праграмны дакумэнт Партыі Незалежнасьці Беларусі (ПНБ). Дакумэнт пачынаецца эмацыянальным заклікам да суайчыньнікаў задумацца над лёсам прашчураў, «якія заўсёды імкнуліся вырашаць лёс Айчыны незалежна і самастойна».

У праекце праграмы ПНБ сказана: «Галоўная мэта партыі — дамагацца сапраўднай палітычнай, эканамічнай ды культурнай самастойнасьці краіны пры рэальным народаўладзьдзі».

Праграма прадбачыць: пераход да рыначнай сыстэмы эканомікі, прывядзеньне заканадаўства ў адпаведнасьць з нормамі міжнароднага права, абвешчаньне Беларусі бязьядзернай зонай, разьвіцьцё разам зь беларускай культурай культураў іншых нацыянальнасьцяў.

Як выглядае з праекту праграмы, ПНБ можа пайсьці радыкальным шляхам. У праграме сказана: «Сваіх мэтаў партыя дамагаецца канстытуцыйнымі сродкамі. Пры экстрэмісцкіх дзеяньнях уладаў, накіраваных на абмежаваньне галоснасьці, дэмакратыі, сувэрэнітэту і г.д., партыя пакідае за сабой права на экстрэмізм».

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 20 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска с перасылкаю 20 дал. на год.*
Артыкулы, прадпісаныя прозьвічам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**Янка Запруднік**

# БНР — ГЭТА ІДЭЯ

### Камэнтар да матар'ялаў савецкага друку, прысьвечаных БНР

Ніколі яшчэ ў бой супраць ідэі беларускае нацыянальна-дэмакратычнае дзяржаўнасьці ня выходзіла на газэтную плошчу аж гэтулькі афіцыйных савецкіх аўтарытэтных дэманстрантаў. У «Зьвязьдзе», «Советской Белоруссии», «Сельской газете» ды іншых органах ЦК КПБ разам з чыноўнікамі менскае гарадзкое ўправы, пайшлі ў антыбээнэраўскі паход акадэмікі, прафэсары, дырэктары, вэтэраны партыі і працы, Гэроі Савецкага Саюзу. Да іх даплюсаваўся і адзьдзел інфармацыі Савету міністраў БССР. Вось загалоўкі матар'ялаў, што былі апублікаваныя ў Менску напярэдадні 72-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі (22-24.III): «Да пытаньня аб абвяшчэньні БНР», «БНР: як гэта было», «БНР: факты і дакумэнты», «Настальгія па мінулым», «Ці была БНР рэальнасьцю?» ды іншае.

У калектыўнай заяве трох высокіх функцыянэраў — віцэ-прэзыдэнта АН БССР І. Навуменкі, дырэктара Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК КПБ Р. Платонава ды міністра юстыцыі БССР В. Ціхіні сказана: «Абвешчаная 25 сакавіка 1918 году ўва ўмовах нямецкае акупацыі так званая незалежная Беларуская Народная Рэспубліка ніколі не зьяўлялася дзяржаўным утварэньнем. **Гэта была толькі ідэя** (падкрэсьленьне наша — Я. З.), якую імкнуліся ўвасобіць у жыцьцё прадстаўнікі беларускіх нацыянальных партыяў і іншых палітычных плыняў, што не прызнавалі савецкую ўладу».

Спрачацца з партыйнай гістарыяграфіяй аб тым, ці была БНР «дзяржаўным утварэньнем» — дарэмная справа. Той-жа дырэктар Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК КПБ Р. Платонаў на сустрэчы зь беларускімі пісьменьнікамі ў травені 1988 году, гаворачы пра «застойныя часы», прызнаўся, што роля савецкіх гісторыкаў «чыста утылітарная» — «апраўдваць дзеяньні тых або іншых асобаў, якія знаходзіліся ля стырна кіраваньня». Праблема ў тым, што ў вандэйным Менску «застойныя часы» ў дачыненьні да тэмы БНР адняк ня мінулі, гісторыкі там яшчэ ўсё выконваюць «функцыю апраўданьня тых, хто ля стырна кіраваньня».

Паказальна, прыкладам, што ў ніводным матар'яле не сказана пра факт удзелу ўва Ўсебеларускім Зьезьдзе ў сьнежні 1917 году, ад якога бярэ свой законны пачатак Рада БНР, 1915 дэлегатаў, што прадстаўлялі ўсю Беларусь. Былі-ж на Зьезьдзе таксама й прадстаўнікі ад бальшавікоў, франтавыя паплечнікі якіх і разагналі гэты дэмакратычны форум. Факт усебеларускага прадстаўніцтва на Зьезьдзе цяпер прыхоўваецца, каб мацней прыліпала да БНР характарыстыка «буржуазная», якою перасыпаныя артыкулы «утылітарных» гісторыкаў.

Замоўчваецца таксама факт, што пераважная бальшыня партыяў, прадстаўленых у Радзе БНР, належалі да сярэдзіннае сацыялістычна-дэмакратычнае плыні — тае, да якое масава вярочаюцца цяпер кампартыі Цэнтральнае Эўропы, скідаючы зь сябе скампраміттаванае 50-гадовай практыкай азначэньне «камуністычная». Тэндэнцыя да гэткага ідэйнага й канцэптуальнага ачышчэньня назіраецца сёньня і ў Савецкім Саюзе — у Маскве ды Ленінградзе, дзе ў вініку апошніх выбараў у гарадзкіх радах камуністы апынуліся ў меншыні. Гэта толькі брэжневец Яфрэм Сакалоў, першы сакратар КПБ, спрабуе бараніць яшчэ па інэрцыі «авангардную» ролю свае партыйнае арганізацыі.

Але вярнемся да тэмы БНР.

У матар'ялах менскіх газэтаў часта сустракаецца фраза: «Беларуская Народная Рэспубліка не зьяўлялася дзяржаўным утварэньнем; гэта была толькі ідэя...». Правільна! Гэта была ідэя. Гэта ёсьць ідэя. Янка Купала ў 1942 годзе, у артыкуле «Прывітаньне беларускаму слову!» (якім не валодае менскае парткіраўніцтва) пісаў: «Беларусь — гэта ідэя, гэта спадчына бацькоў...» Беларуская Народная Рэспубліка — гэта ідэя. І ўся пісаніна партыйнага друку пра БНР (якое ня было!) скіраваная якраз супраць гэтай ідэі — ідэі свабоднай, дэмакратычнай, незалежнай Беларусі.

Калі меркаваць паводля колькасьці матар'ялаў, прысьвечаных БНР напярэдадні сьвяткаваньня сёлетніх угодкаў Незалежнасьці, ідэя свабоднае Беларусі драматычна пашыраецца, ахапляючы сабой асабліва маладых.

Маладым відавочная і несвабода гісторыкаў, і іхная утылітарная функцыя. Як відавочны таксама й факт, што ніякіх дакумэнтальных зборнікаў пра БНР, якія насьвятлялі-б падзеі 1917-18 гадоў з усіх бакоў, у савецкай Беларусі не выдаецца. «Архівы даводзіцца браць з боем, а да некаторых і зараз не падступіцца», сказаў карэспандэнту «Зьвязды» адзін з больш сумленных гісторыкаў, М. Касьцюк, дырэктар Інстытуту гісторыі АН БССР («Зьвязда», 7.I.90).

Тыя-ж дакумэнты, што публікуюцца ў газэтах — «БНР: дакумэнты і факты» («Зьвязда, 22.III) — дэманструюць ня толькі тэндэнцыйнасьць аўтараў, але паказваюць таксама, якія мізэрныя іхныя кваліфікацыя як беларускіх гісторыкаў. Гэтак, падаючы ў «Зьвязьдзе» ўрывак «Зь пісьма беларускіх нацыяналістаў германскаму паслу пры ўрадзе Ўкраінскай Народнай рады» (25 красавіка 1918 году), пасьля цьверджаньня аўтараў ліста аб тым, што ў мінуўшчыне «шматлікія гарады (Беларусі) карысталіся нямецкім правам», аўтары матар'ялаў зазначаюць у дужках: «Ніколі не карысталіся». Вось-жа мы адсылаем аўтараў гэтай заявы, П. Лапца (намесьнік дырэктара Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК КПБ) і У. Лашкевіча (начальнік Галоўархіву БССР), да 6-га тому БелСЭ. Чытайце:

«МАГДЭБУРГСКАЕ ПРАВА... Узьнікла ў 13 ст. ў г. Магдэбурзе (Усх. Германія). ... Вызначала арганізацыю рамеснай вытворчасьці, гандлю, парадак выбраньня і дзейнасьць гарадзкога самакіраваньня, цэхавых аб'ядананьняў рамесьнікаў і купецтва. У 13-18 ст. пашырана ў Польшчы, Літве, на Ўкраіне, Беларусі».

Дык карысталіся Беларусы нямецкім правам ці не?..

Гэтак вось і ўся гісторыя БНР «тлумачыцца». І рэч тут ня гэтулькі ў тым, была ці ня была БНР «дзяржаўным утварэньнем», колькі, як мы казалі, у ідэі свабоднае, дэмакратычнае, незалежнае Беларусі. Не БНР, а ідэю гэтую спрабаваў быў забараніць сваім «рашэньнем» менскі гарвыканкам, прыгразіўшы Зянону Пазьняку, Юрыю Хадыку й Аляксею Марачкіну, што яны будуць несьці «пэрсанальную адказнасьць у выпадку парушэньня імі дзеючага заканадаўства аб парадку правядзеньня мітынгаў, шэсьцяў і дэманстрацый».

Але як забароніш ідэю, калі па цэлай Рэспубліцы яна гучыць сёньня ў купалаўскім клічы «Жыве Беларусь!», сьвеціцца бел-чырвона-белымі сьцягамі? Урэшце, ідэя гэтая, хоць і ў абцятай форме, уцелаўлёная таксама ў гістарычна прыпозьненай беларускай савецкай дзяржаве, бо-ж калі-б ня было руху за БНР, дык ня было-б і БССР. БНР — арыгінал, БССР — падробка!

Працэс гістарыннага разьвіцьця беларускае дзяржаўнасьці сёньня даходзіць да стадыі, калі сучасную форму гэтаи дзяржаўнасьці трэба перарабіць так — «перабудова»-ж! — каб яна напоўнілася праўдзівым зьместам, на які багатая тысячагадовая мінуўшчына Беларусі.

**В. Зубкоўскі**

# НА СЛУЖБЕ ГВАЛТУ

### Аб забароне адзначэньня ўгодкаў 25 Сакавіка ў Менску: Бэндэ-Абэцэдарскі-Навуменка

Гарадзкія ўлады Менску забаранілі адзначыць сёлета ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Пастанова аб забароне была апублікаваная ў газэце «Зьвязда» ды іншых органах друку. Разам зь ёю быў выдрукаваны і другі «дакумэнт» пад заг. «Да пытаньня аб абвешчаньні БНР» — на падмацаваньне забароны сьвяткаваньня. Дзеля большае аўтарытэтнасьці дакумэнт гэты падпісаны Іванам Навуменкам, віцэ-прэзыдэнтам АН БССР, Р. Платонавам, дырэктарам Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК КПБ, ды міністрам юстыцыі Ціхінем. Нічога ня скажаш, масьцітасьць пад дакумэнтам ёсьць, аднак што да аўтарытэтнасьці цьверджаньняў, дык гэта пытаньне! Бо-ж ні Навуменка, ні, праўдападобна, Ціхіня ў беларускай гісторыі не спэцыялісты, а Платонаў спэцыялізуецца таксама не ў бээнэраўскай тэматыцы. Аднак ня гэта тут самае галоўнае. Галоўнае ў дакумэньце — паслужлівасьць акадэмікаў для палітычных мэтаў. Гісторыя паўтараецца! У савецкай Беларусі гэткія заявы пачалі друкавацца ад 1930 году. Тады ўжо друкаваліся дакумэнты з подпісамі акадэмікаў і высокіх партыйцаў, каб судзіць нацдэмаў, каб апраўдаць русыфікацыйную рэформу беларускага правапісу, каб абвінаваціць трацкістаў, бухарынцаў, і да таго падобнае.

У паваенным часе некаторыя менскія акадэмікі давалі свае подпісы, каб «прышыць» Францішку Скарыну імя «Георгій», а таксама каб зьняславіць газэту «Наша Ніва». Аб гэтым апошнім эпізодзе варта прыпомніць, бо, як паведамляе друк, газэта «Наша Ніва» неўзабаве будзе перавыдадзеная факсымільным выданьнем.

На пачатку 60-х гадоў у беларускім савецкім друку пачалі зьяўляцца выказваньні аб патрэбе шырэйшага вывучэньня газэты «Наша Ніва», а дасьледнік Мікола Верабей надрукаваў у часапісе «Полымя» (1964, № 2) артыкул аб нібы-та ленінскім творы ў «Нашай Ніве». Здавалася-б, ненармальнага ў гэтым нічога не павінна было-б быць: аўтар прааналізаваў матар'ял ды выказваў свае думкі, зь якімі можна было згаджацца ці не згаджацца. Ажно ня так у савецкай сыстэме. Каб спыніць выказваньні аб патрэбе рэгабілітацыі «Нашай Нівы», у часапісе «Камуніст Беларусі» за май 1963 году зьявіўся пагромніцкі артыкул супраць М. Вераб'я, і часапісу «Полымя», і газэты «Наша Ніва». Артыкул быў падпісаны таксама масьцітымі асобамі: Абэцэдарскім, Яфрэмавай, Карнейчыкам ды Шабунем. Як і цяпер з забаронаю сьвяткаваньня Дня Незалежнасьці, масьцітасьць аўтароў, што грамілі «Нашу Ніву», была відавочная, хоць іхныя веды пра газэту ды пра навейшае беларускае адраджэньне былі слабыя. Праўда, розьніца цяперашняга дакумэнту, падпісанага Навуменкам і Ко., тая, што нават Абэцэдарскі ня прыцягваў міністра юстыцыі на падмацаваньне аргумэнту...

«Вось так і вядзецца на нашым вяку», як кажа ў адной зь песенек Булат Акуджава: у трыццатых гадох на беларускіх патрыётаў пакрыквалі ды пастрашвалі ў сваіх «дакумэнтах» Лукаш Бэндэ, Сямён Вальфсон, потым прыйшлі Лаўрэн Абэцэдарскі, Цімафей Гарбуноў, а нашымі часамі гэтую ролю на сябе ўзяў Іван Навуменка.

## *ПА ВЫБАРАХ: РАЗЬМЕРКАВАНАСЬЦЬ СІЛАЎ*

На пачатку красавіка ў Менску адбыўся другі Беларускі дэмакратычны форум — нарада, скліканая зь ініцыятывы БНФ «Адраджэньне», каб абмеркаваць вынікі выбараў у Вярхоўны й мясцовыя саветы (рады) рэспублікі. У двух турах выбараў, праведзеных 4-га і 17-18-га сакавіка, у ВС БССР прайшлі 60 дэпутатаў ад Дэмакратычнага блёку, 120 прадстаўнікоў ад савецкага й партыйнага апарату, 50 дэпутатаў зь неакрэсьленай пазыцыяй (пераважна кіраўнікі вытворчасьці і лекары).

Яшчэ адбудзецца 22 красавіка трэйці тур выбараў, каб запоўніць у ВС БССР усе 360 месцаў.

У Менскі гарадзкі Савет ужо абраныя 106 дэпутатаў: 40 прадстаўнікоў Дэмакратычнага блёку, 20 партапаратчыкаў і 46 неакрэсьленых. Лёс рэшты мандатаў вырашыцца ў паўторных выбарах.

На нарадзе Дэмакратычнага блёку было пастаноўлена стварыць у ВС БССР апазыцыю на плятформе БНФ. Бальшыня ўдзельнікаў дыскусіі выказалася за безадкладнае прыняцьцё законаў аб свабодзе друку, шматпартыйнасьці, вяршэнстве рэспубліканскіх законаў над саюзнымі. На думку назіральнікаў, дэмакратычная апазыцыя будзе здольная правaліць любую пастанову ВС БССР, якая будзе супярэчыць нацыянальным інтарэсам. Посьпех апазыцыі будзе залежаць часткава ад таго, на чыім баку стануць дэпутаты неакрэсьленай плыні.

*(Паводля паведамленьня штатнае карэспандэнткі радыё «Свабода» ў Менску Камілы Малевіч)*

## САВЕЦКАЯ «ГАРАНТЫЯ» СВАБОДЫ

На якой канстытуцыйнай аснове ўлады Менску забаранілі мірнае сьвяткаваньне ўгодкаў Незалежнасьці Беларусі? Вось выпіска з «Рашэньня выканкому Мінскага гарадзкога Савету народных дэпутатаў 'Аб заяве грамадзян Пазьняка З. С., Хадыкі Ю. В. і Марачкіна А. А.'»:

«Адмовіць гр. Пазьняку З. С., Хадыку Ю. В. і Марачкіну А. А. у прадстаўленьні плошчаў, вуліц і грамадзкіх месцаў гораду для арганізацыі 25 сакавіка гэтага году сьвяткаваньня так званага 'дня незалежнасьці Беларусі' на падставе арт. 48 Канстытуцыі БССР, якая гарантуе грамадзянам БССР свабоды: слова, друку, сходаў, мітынгаў, шэсьцяў і дэманстрацый толькі ў адпаведнасьці зь інтарэсамі народу і ў мэтах умацаваньня і разьвіцьця сацыялістычнага ладу».

Пры нармальным дэмакратычным ладзе («буржуазным», кажучы савецкім тэрмінам) Пазьняк, Хадыка і Марачкін маглі-б апратэставаць адмову права на мітынг, зварачаючыся да незалежнага суда. Савецкая-ж «дэмакратыя» такое магчымасьці сваім грамадзянам не дае, а на пытаньне, штó адпавядае «інтарэсам народу», адказваюць непадкантрольныя народу бюракраты.

## ДЗЕЦЯМ ЧАРНОБЫЛЯ

У Злучаных Штатах была ў красавіку дэлегацыя Беларускага цэнтру савецка-амэрыканскай праграмы «Дзеці — творцы 21-га стагодзьдзя». Дэлегацыя зьбірала сродкі, пераважна ў форме мэдыкамэнтаў, лекаў, вітамінаў для гэматалягічнага центру ў Менску. Па дамоўленасьці з гэтым цэнтрам дапамога сабраная ў ЗША прызначаецца для дзяцей-ахвяраў чарнобыльскае катастрофы, якія цяпер знаходзяцца на лячэньні ў менскім гэматалягічным цэнтры. Дэлегацыя наведала беларускія асяродкі ў Нью-Брансьвіку, Саўт-Рывэры і Кліўленьдзе. Сябры дэлегацыі, Тамара Сушко, Віталі Гавака і Эдуард Цярэнцьеў, далі вычарпальную інфармацыю аб наступствах Чарнобыля ды паказвалі фільм аб катастрофе.

## «ПАЛЕМІЧНЫ» РЭКОРД «ВЯЧЭРНЯГА МІНСКУ»

Тацьцяна Бумажкова (беларуская «Ніна Андрэева») выдала порцыю свае пісаніны на старонках «Вячэрняга Мінску» (16.III) супраць а. Аляксандра Надсона, які на пачатку сакавіка вазіў у сталіцу Беларусі мэдычную дапамогу чарнобыльцам, сустрэўся там зь дзеячамі Беларускага Народнага Фронту.

Гэтую нагоду й выкарыстаў «ВМ», каб яшчэ раз папісацца мастацтвам свае палемікі. Аб палемічным узроўні можна меркаваць паводля наступнага сьцверджаньня Бумажковай пра «Русікум», духоўную сэмінарыю ў Ватыкане. Хочаце ведаць, што там выкладалі? Чытайце Бумажкову: «скачкі з парашутам, валоданьне нажом, любой зброяй (асабліва адпрацоўвалася стральба на гук бяз прыцэлу), бокс, барацьба і г.д.».

Месца сталае працы Бумажковай — «Сельская газета», хоць папісвае яна і для іншых органаў друку адпаведнай арыентацыі. Група супрацоўнікаў «ВМ», сем асобаў, у лісьце ў рэдакцыю «ЛіМ» (23.III.90) назвалі пісаніну Бумажковай «правакацыяй» і выказалі меркаваньне, што зьяўленьне гэтага артыкулу «прывядзе да новага абвастрэньня грамадзка-палітычнай сытуацыі ў горадзе і ў Беларусі».

Расьціслаў Завістовіч

# НА ШЛЯХУ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

*Ніжэй зьмяшчаем даклад, прачытаны на Сакавіковым сьвяткаваньні ў Саўт-Рывэры, Н.-Дж., 26.III.1990 году. Дзеля нястачы месца даклад крыху скарочаны.*

Пасьля ўтраты свае дзяржаўнасьці ў форме Вялікага Княства Літоўскага беларускі народ ня раз падымаўся на барацьбу, каб адваяваць сваё Богам дадзенае права на незалежнае жыцьцё. Барацьба за сваю самастойнасьць становіцца асабліва адчыненай толькі ў XIX стагодзьдзі. Гэта аднак не гаворыць пра нацыянальную абыякавасьць беларускага народу ранейшых часоў. Да канца XVIII ст. амаль усе народы Эўропы былі пад уплывам ідэяў унівэрсалізму, зь яго вераю ў перамогу дабра над злом і яго зацікаўленасьцю духовым жыцьцём людзкасьці, а ня выключна нацыянальнымі пытаньнямі паасобных народаў.

Яшчэ на пачатку XIX ст. такі сёньня патрыятычны народ, як Немцы, ня быў, у сёньняшнім разуменьні, поўнасьцю нацыянальна сьведамым. Яшчэ ў 1808 годзе нямецкі патрыёт-філёзаф Ёган Фіхтэ ў сваім творы «Звароты да нямецкае нацыі» (Reden an die duetsche Nation) заклікаў Немцаў да еднасьці, да зразуменьня сябе, як аднаго народу.

У XIX ст. на месца ўнівэрсалізму прыходзіць новая зацікаўленасьць чалавекам і яго жыцьцём. Яна прывяла да паўстаньня новага гістарычнага руху, які даў сябе адчуць у кожнай галіне думкі й культуры. Гэтая зацікаўленасьць, павязаная з рамантычным духам прыгодаў і вынаходаў, прывяла да паўстаньня новае эры, у якой месца ўнівэрсалізму заняў рамантызм. Пачынае разьвівацца навука й тэхніка, падвышаецца нацыянальнае пытаньне, якое становіцца сутнасьцяй палітычнага жыцьця Эўропы. У Эўропе наступае палітычная вясна. Людзкасьць кіруецца гётаўскім прынцыпам «быць чалавекам — гэта значыць быць барацьбітом». На Эўропе праходзіць шэраг паўстаньняў, якія мелі выразна палітычны характар. Сярод іх на асаблівую ўвагу заслугоўвае беларускае паўстаньне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ў 1863 годзе. Паўстаньне было яскравым выявам барацьбы нашага народу за сваё нацыянальнае вызваленьне. Сваёй самаахвярнай працай і нязгасным каханьнем да свае Бацькаўшчыны Марыські-Беларусі і свайго народу Кастусь Каліноўскі зрабіў вялікі ўплыў на разьвіцьцё грамадзка-патрыятычнай думкі на Беларусі. Ён парваў путы панаваньня векавой няпраўды над сваёй Бацькаўшчынай, распаўсюдзіў у народзе ўсьведамленьне, што ён роўны зь іншымі народамі, што ён павінен мець лепшую долю, што ён нацыя, якая ў цяжкія часы свае гісторыі памірала ад рук чужынцаў, але не памерла.

Першая сусьветная вайна, а пасьля рэвалюцыя ў расейскай імпэрыі ў 1917 годзе даюць магчымасьць беларускаму народу дамагацца звароту адабранае ад яго дзяржаўнасьці. 25 сакавіка 1918 году Рада БНР абвяшчае Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай. Аднак, на вялікі жаль, нашаму народу не даводзіцца быць незалежным напрацягу доўгага часу.

Адным зь першых крокаў бальшавіцкага ашуканства ў адносінах да Беларусі было стварэньне ў студзені 1919 году фікцыйнае беларускае дзяржавы ў форме гэтак званай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Бальшавіком трэба было ашукаць вонкавы сьвет і стварыць бачнасьць незалежнасьці Беларусі.

У 20-х гадох, калі гаспадарка новае расейскае імпэрыі ляжала ў руінах, калі ў краіне панаваў голад і холад, савецкая ўлада была вымушаная зрабіць тактычны крок назад і ўвесьці ў жыцьцё гэтак званую новую эканамічную палітыку (НЭП), пры якой сяляне заахвочваліся да разьвіцьця іх гаспадарак, падтрымлівалася дробнае прыватнае прадпрыемніцтва. Бальшавікі ведалі, што не бязглуздыя ідэі неадкладнага будаўніцтва «камуністычнага грамадзтва», а толькі пачуцьцё ўласнасьці і ініцыятывы жыхарства могуць падмацаваць гаспадарку краіны. Аднachасова было дазволена разьвіцьцё нацыянальных культураў, у прыватнасьці беларускай. Беларуская мова ўводзілася ў карыстаньне ў адміністрацыйных установах, школах, тэатрах.

Але вось наступілі крывавыя гады — 1929, 1930, 1931... Пайшлі зь Беларусі бясконцыя таварныя цягнікі ў бок халоднае Поўночы, Уралу і сібірскае тундры. Яны везьлі на вынішчэньне тысячы і тысячы працавітых беларускіх сялянаў. Пакацілася хваля арыштаў. Нішчыліся помнікі беларускай культуры і мастацтва. Наступіла жорсткая, халодная зіма на нашай Бацькаўшчыне.

Такой зімой у маладосьці
У дваццаць тры мае гады
Патрапіла ў Сібір я ў госьці
З усенароднае бяды, —

пісала беларуская паэтка Яўгенія Пфляўмбаўм. Так, гэта была сапраўдная ўсенародная бяда, памеры якой нават цяжка сабе ўявіць. У надаўніх савецкіх крыніцах падаецца, што ў 30-х гадох было вывезена зь Беларусі 1 мільён 629 тысяч чалавек, — і гэта пры насельніцтве ў тагачаснай падсавецкай часткі Беларусі ў 5 мільёнаў. Гэта значыць, што трэцяя частка ўсяго насельніцтва гэтае, з дазволу сказаць, сувэрэннае дзяржавы была выкінутая з родных мясьцінаў.

Калі на пачатку 30-х гадоў у Саюзе пісьменьнікаў БССР было звыш ста паэтаў і пісьменьнікаў, дык у канцы гэтых крывавых гадоў Саюз пісьменьнікаў паменшыўся, паводля Васіля Быкава, да двух дзясяткаў сяброў.

Зноў, як і за часамі расейскага царызму, беларуская мова ў гарадох рабілася ўвасабленьнем някультурнасьці й ніжэйшасьці. У беларускую мову пачалі былі ўводзіць савецкія «карэктывы», што набліжалі яе да мовы «старэйшага брата». Зусім нэўтральны, альбо можа нават пахвальны, тэрмін «нацыянальны дэмакрат» быў ператвораны ў чужы для Беларусаў сурагат «нацдэм» з наданьнем яму сэнсу здрады й злачынства. Паўстаў ганебы канфармізм, які намагаўся ператварыць наш лагодны народ у савецкага робата. Русыфікацыя агарнула была ўсю краіну. Нават беларуская вёска, гэтая спраўдвечная калыска беларускае нацыі, сыстэматычна русыфікавалася. Наша Бацькаўшчына была даведзена да мяжы страты свае культуры, мастацтва і свае мовы. Упяршыню ў гісторыі Беларусі паўстала была пагроза існаваньню нашага народу як нацыі.

Гісторыя аднак паўтараецца. Гаспадарка савецкае імпэрыі развальваецца. Савецкі эканамічны воз безнадзейна заграз у камуністычным балоце. Савецкаму Саюзу зноў патрэбныя замежныя крэдыты і тэхніка. Падобна як у 20-х гадох нэпаўшчыны, савецкі ўрад абвяшчае палітыку публічнасьці й перабудовы, прыпраўленае, як і раней, вялікаю дозаю хлусьні і крусьцельства. Дазволена пісаць нават праўду — вядома, далёка няпоўную — пра існуючы стан у краіне, калі гэтай праўдай не крытыкуецца камуністычны падмурак і найвышэйшае кіраўніцтва савецкае дзяржавы. Паняволеныя народы пачалі пакрысе варушыцца.

Авангардам сёньняшняга адраджэнскага руху на Беларусі сталіся беларускія пісьменьнікі, паэты і, галоўнае, беларуская моладзь. Моладзь цікавіцца сваёй праўдзівай гісторыяй і культурай. Яна дамагаецца аднаўленьня беларускіх школаў. Расьце сьведамасьць беларускага народу, гартуецца яго нацыянальны дух. Прыкладам гэтага быў шматтысячны мітынг жыхароў Менску 30 кастрычніка 1988 году, каб адзначыць дзень памяці «Дзяды», хоць, нягледзячы на публічнасьць, мітынг быў гвалтоўна разагнаны. Наіўна думаць, што жорсткая расправа зь менскімі дэманстрантамі была задумана мясцовымі ўладамі без пагадненьня з Масквой альбо без атрыманьня ад яе загаду. Тым больш, што гэтакі-ж гвалт быў учынены ў мінулым 1989 годзе, на гэты раз у Берасьці.

Пасьля чарнобыльскай катастрофы ў атмасфэры ўтварылася вялічэзная радыяактыўная хмара, якая, пад уплывам ветру, рухалася на поўнач над Гомельшчынай і Магілёўшчынай. І калі вецер падуў на ўсход, ствараючы небясьпеку для імпэрскага цэнтру, савецкія перабудоўшчыкі, штучным узьдзеяньнем на гэтую хмару, вытрасьлі зь яе на беларускія палі, рэчкі, лясы й лугі ўсю яе атруту, якая зьнішчыла не толькі землі, але й зрабіла непапраўную шкоду нашым людзям. Афіцыйная Масква ўсё яшчэ хавае праўду пра гэтае злачынства.

Зьбірае сьмерць апошніх продкаў,
У неба цягнуцца крыжы,
Сыны-ж усё радзей ва ўгодкі
Прыходзяць на ўспамін душы.
Іх пазганялі з родных гнёздаў,
Што тых калмыкаў ці татар —
Жуда, бяспамяцтва, бязроднасьць
Дратуюць сэрца і абшар, —

пісаў нядаўна сучасны беларускі паэт Леанід Яўменаў, гледзячы на магілы сваіх атручаных братоў.

Вось вам перабудовачная публічнасьць і нашая беларуская рэчаіснасьць!

І ўсё-ж, нягледзячы на пагрозы й пагромы, будзіцца сьведамасьць нашага народу, у змаганьні гартуюцца барацьбіты за лепшую будучыню свае Бацькаўшчыны. Нішто ня зломіць вызваленчага духу нашага народу, як не зламала духу нашай вялікай патрыёткі-паэткі Ларысы Геніюш, якая пісала вось гэтыя радкі ў далёкіх сібірскіх лягерох няволі:

Ад сьлёзаў народных разьліву,
Ад гора саломенных стрэх,
Замоўк мой калісьці шчасьлівы
Жаночы рассыпчаты сьмех.
Так, я ня умею сьмяяцца,
Праменную радасьць змаглі,
Ўсё-ж умею, як волат змагацца,
Каб людзі сьмяяцца маглі!

Нягледзячы на кпіны царскіх столаначальнікаў зь Беларусаў і беларускае мовы; нягледзячы на зачыненьне й забарону вышэйшых навучальных установаў на Беларусі за царскімі часамі; нягледзячы на зьдзек і масавае вынішчэньне беларускага сялянства савецкаю сыстэмаю, нячуваны ў гісторыі чырвоны тэрор над беларускай інтэлігэнцыяй; нягледзячы на зачыненьне беларускіх школаў і вынішчэньне помнікаў беларускай культуры і мастацтва — нягледзячы на ўсё гэта, імкненьні беларускага народу да здабыцьця волі і аднаўленьня свае незалежнае дзяржавы, да ажыцьцяўленьня ідэалаў акту 25 сакавіка, не памерлі. Яны ніколі не памруць. Праўда пераможа — на тое-ж яна й праўда! Беларусь адваюе сабе волю! Яна будзе незалежнай!

# ЧАРНОБЫЛЬСКАЕ ЗЛАЧЫНСТВА І ЧАРНОБЫЛЬСКАЕ ГОРА

26 красавіка 1990 году споўніцца чатыры гады ад чарнобыльскага атамнага пажару, у выніку якога семдзесят працэнтаў радыяактыўнага пылу асела на тэрыторыі Беларусі. Пасьля больш як трохгадовага злачыннага замоўчваньня наступстваў Чарнобыля партбюракратыя ў Менску пад ціскам грамадзкае думкі пачала прызнаваць некаторыя факты зьнішчэньня. Але й дасюль рэспубліканскае Міністэрства аховы здароўя адмаўляецца прызнаць сувязь паміж чарнобыльскай радыяцыяй і масавымі захворваньнямі. Газэта «Эхо Литвы» (28.III.90) зьмясьціла артыкул карэспандэнта АДН І. Германчука, у якім ёсьць выказваньне А. Сьцепаненкі:

«Праўдзівая інфармацыя аб уплыве радыяцыі на здароўе жыхарства да гэтага часу старанна хаваецца, — кажа народны дэпутат Аляксандар Сьцепаненка, віцэ-прэзыдэнт АН БССР. — Пасьля Чарнобыля і па сёньняшні дзень чыноўнікі саюзнага і беларускага міністэрстваў аховы здароўя працягваюць цьвердзіць: усё, бач, у парадку, ня трэба хвалявацца. Тымчасам у забруджаных радыяактыўнасьцю раёнах Беларусі расьце захворвальнасьць, у тым ліку анкалягічная, дзіцячая сьмяротнасьць, часьцей сустракаюцца анамаліі. Але рэспубліканскае Міністэрства аховы здароўя бязь ценю сумляваньня заяўляе, што гэта ніяк не зьвязана з узьдзеяньнем радыяцыі».

Ды людзі на месцы, на паражаных радыяцыяй тэрыторыях рэспублікі, ня вераць чыноўніцкім запэўненьням, бо зашмат відавочных фактаў навокала, што сьветчаць аб адваротным.

### ШТО Ў ГЭТАЙ БЯДЗЕ МОЖА ЗРАБІЦЬ ЭМІГРАЦЫЯ?

Апрача пасыланьня мэдыкамэнтаў і розных мэдычных прыладаў на Беларусь, а таксама закупу даражэйшых дыягнастычных машынаў (асабліва патрэбен Рэспубліцы хоць-бы адзін ультрагукавы сканэр) паасобныя грамадзяне ЗША і іншых заходніх краінаў павінны дапамагчы тым Беларусам у БССР, якія жадаюць перабрацца на сталае жыхарства на Захад.

Каб паказаць, наколькі сур'ёзна й канкрэтна гэтая праблема стаіць перад беларускай эміграцыяй, мы зьмяшчаем ніжэй ліст ад аднае жанчыны з Гомельшчыны, прысланы кагадзе ў рэдакцыю «Беларуса». Мы зварачаемся аднасна з гарачай просьбай: калі хтонебудзь з чь гачоў можа прыйсьці з дапамогай аутарцы гэтага ліста, калі ласка, у імя шматпакутнага Краю нашага, памажэце гэтай жанчыне і гэтым людзям.

### ЛІСТ ЗЬ БЕЛАРУСІ

Дзень добры, паважаны рэдактар газэты «Беларус»!

Гэты ліст да Вас піша жанчына з г. Гомелю. Адно пісьмо я ўжо напісала Вашаму карэспандэнту, а другое пішу Вам, бо баюся раптам яно ня дойдзе да яго.

Вялікае гора застаўляе мяне зьвяртацца к Вам за дапамогаю. Мабыць Вам вядома, што ў 1986 годзе на Чарнобыльскай АЭС адбылася катастрофа, у выніку якой ⅔ тэрыторыі Беларусі забруджаныя небясьпечнымі для жыцьця радыянуклідамі. Як любая маці, я павінна ўратаваць жыцьцё сваіх дзяцей — гэта мой абавязак. Таму я зьвярнулася ў амэрыканскае пасольства з просьбай пазволіць пераехаць нам на пастаяннае жыхарства ў ЗША. Пасьля размовы ў пасольстве нам дазволена ўехаць, але пры ўмовах, калі будзе гарантыя ад родзічаў ці спонсара, якія нам дапамогуць уладкавацца. Родзічаў у ЗША ў мяне няма, бо ўсе мае родзічы жывуць і па сягоньняшні дзень у адлегласьці 40 вёрст ад гэтай станцыі, а сама я родам з 30-вёрстнай зоны (мёртвай зоны) і ўжо ня маю сваёй малой Радзімы. Я вельмі прашу Вас дапамагчы маёй і яшчэ адной сям'і Беларусаў, якая таксама была з намі ў амэрыканскім пасольстве і атрымала ўмоўны ўезд. Для таго, штоб атрымаць канчатковы ўезд у ЗША нам патрэбна, каб на наш нумар справы ў Вашынгтонскім цэнтры была даслана даведка формы I-134 або ліст ад фірмы, якая нас можа ўзяць на работу. Нумар нашай справы: WP-013334 Арцёменко.

Нашы біяграфічныя зьвесткі:

Мой чалавек: Арцёменка Ўладзімір Пракопавіч, адукацыя — вышэйшая, працуе канструктарам па тэхнічнай аснастцы з дня заканчэньня інстытуту; яго жонка (гэта я): Арцёменка Галіна Іванаўна, адукацыя — сярэдня-спэцыяльная, працую эканамістам: нашы дзеці: Арцёменка Кірыл Уладзіміравіч, закончыў 8 класаў, вучыцца на наладчыка станкоў зь лічбовым і праграмным кіраваньнем; Арцёменка Віталік Уладзіміравіч, вучыцца ў 7 класе сярэдняй школы.

Нумар справы другой сям'і: WP-013333 Ляўчэня.

Хазяін сям'і: Ляўчэня Аляксандар Валяр'янавіч, працуе электрыкам, закончыў вучылішча. Хазяйка сям'і, яго жонка: Ляўчэня Тацьцяна Фёдараўна, адукацыя — вышэйшая, працавала эканамістам-бухгальтарам. Іх дзеці: Мар'я і Люба ходзяць ў дзіцячы сад.

Адрас цэнтру:

Washington Processing Center
1111 No. 19th St., Suite 600
Arlington, Va 22209
Tel.: (703) 525-4311

Я вельмі прашу ў Вас дапамогі, а калі-ж Вы самі ня зможаце гэта зрабіць, то перадайце гэты ліст ў беларускую абшчыну ці надрукуйце яго ў вашай газэце.

Паважаны рэдактар, я вельмі прашу Вас адказаць на гэтае пісьмо, каб я ведала, ждаць мне дапамогі ці не. Алеж калі Вы адклікнецеся на маё пісьмо і зможаце зрабіць патрэбныя паперы, то дасылайце іх адразу на Вашынгтонскі цэнтар, а ня мне — так будзе хутчэй, бо кожны дзень нясе для нас небясьпеку, і гэтай дапамогі ждуць яшчэ некалькі сямей, якія зусім жывуць у Хойніках і ня могуць уратавацца самі, а ждуць маёй дапамогі. І калі Вы мне дапаможаце, то я ўжо потым сама буду рабіць усё, каб выратаваць другіх людзей, гэта мой абавязак і я яго выканаю.

Вялікае Вам дзякуй і прывітаньне ад роднай зямлі.

25 сакавіка 1990 г.

Наш адрас:

246042 г. Гомель
вул. Ільіча, 91, кв. 43
Арцёменка Ўладзімір Пракопавіч

### КАНФЭРЭНЦЫЯ ПРЫСЬВЕЧАНАЯ Ф. СКАРЫНУ

Ад 18 да 20 чэрвеня сёлета ў Варшаве адбудзецца міжнародная канфэрэнцыя, прысьвечаная «500-годзьдзю з дня народзінаў Францішка Скарыны, беларускага друкара, навучонага і асьветнага дзеяча». На канфэрэнцыю запрошаныя прадстаўнікі Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва др. Вітаўт Кіпель і праф. Томас Бэрд.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

# 500-ГОДЗЬДЗЕ ФРАНЬЦІШКА СКАРЫНЫ

***Ад Рэдакцыі:*** *Урачыстасьць адзначэньня скарынаўскага юбілею Беларусамі Чыкага апісаў др. Вітаўт Рамук у папярэднім нумары «Беларуса». Ніжэй зьмяшчаем карэспандэнцыю у дапаўненьне таго матар'ялу.*

Скарынаўская выстаўка знаходзілася ў абшырнай залі царквы Хрыста Збаўцы ад 18 лютага аж да часу, калі 18 сакавіка яна была перанесеная на больш як месяц часу ў гарадзкі Цэнтар імя Рычарда Дэйлі. Гэта імпазантны са шклянымі сьценамі навачасны будынак, у якім разам зь іншымі ўстановамі месьціцца адзьдзел Культурных Справаў. Скарынаўская выстаўка разьмешчана тут на франтавой сьцяне сьветлай вялікай залі, каля якой, на пляцы, амаль штадня адбываюцца вакальныя ды іншага роду культурныя праграмы — «пад Пікасам».

Агромная скульптура Пікаса займае цэнтар відалі, калі глядзіш праз шкляную сьцяну на Чыкага. Досьць глянуць на скульптуру, як табе здасцца, што шырачэзныя арліныя крылы абдымаюць усю залю й сьцерагуць выстаўку Скарына. Калі зойдзеш з другога боку з вуліцы, скульптура вымоўна прадстаўляе... жанчыну. Што тут вымоўнага? Дзьве дзірачкі вачэй і мэтры паўтара ніжэй другія дзьве дзірачкі носа... і далей геамэтрычная пікасаўская форма постаці. А ўсё разам узяўшы, зь якога боку ні глядзеў-бы, — манумэнтальная скульптура, што змушае зьвярнуць на сябе ўвагу і не пакідае гледача абыякавым.

Ды вяртаючыся да Скарынавае выстаўкі, — здалёк прыцягае яна ўвагу стратэгічным, мілым для вока, разьмяшчэньнем багацьця формаў, колераў і матываў беларускага ткацтва й вышыўкі. У цэнтры дамінуе вялікі алейны партрэт др. Франьцішка Скарыны выкананьня Пётры Міpановіча. Высока над усёй кампазыцыяй вялікімі літарамі паангельску напіс абвяшчае, што 500 год таму нарадзіўся Франьцішак Скарына. Калі падыйдзеш бліжэй, да эстэтычных пачуцьцяў далучаецца інтэлектуальная дапытлівасьць да, ізноў-жа так эфэктыўна аформленых, гістарычных экспанатаў выстаўкі.

Выдавецкую дзейнасьць першадрукара прадстаўляюць рэпрадукцыі бачынаў і дрэварытных ілюстрацыяў зь ягонае Біблії. Пра Скарыну гавораць: каляровая фатаграфія ягонага падуанскага партрэту із «Залі Сарака»; нядаўна выданая БІНіМ у Нью-Ёрку кніга «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны» др. Вітаўта Тумаша; факсымільнае выданьне Статуту Вялікага Княства Літоўскага (у распрацоўваньні Статуту Скарына праўдападобна браў удзел); каталёг выстаўкі да 500-гадовага юбілею «Францыск Скарына і яго час» збору экспанатаў Анатоля Белага зь Менску; калекцыя марак (собскасьць Багдана Паўка з Чыкага) з выявай Скарыны (у калекцыі ёсьць маркі выданыя ўрадам БНР у 1918-1925 гадох); аркуш скарынаўскіх марак 1967 году выданьня БІНіМ у Нью-Ёрку, апрацаваных Барысам Данілюком; 1100 год Полацку — марка выданая 19.VIII. 1962 г. ў Менску; канвэрт са скарынаўскай паштовай маркай, выпушчаны ў Савецкім Саюзе 17 сакавіка 1988 г.; рэпрадукцыі партрэту Скарыны зь ягонае Біблії.

На выстаўцы ёсьць і шмат іншых цікавых экспанатаў, як эмблема нефармальнае арганізацыі моладзі у БССР «Спадчына», «Пагоня» зь бел-чырвона-белым сьцягам ды гняздо зь беларускімі лялькамі й прадметамі вялікодных беларускіх абрадаў. У заключэньні на канцы правага крыла выстаўкі паведамленьне ў ангельскай мове: «Зь ветлівасьці Беларускага Кападынацыйнага Камітэту ў Чыкага» і адрас Камітэту.

Афармілі выстаўку сп-ні Вера Рамук і Ірэна Пануцэвіч ды сп.сп. др. Вітаўт Рамук і Нікадэм Жызьнеўскі.

Мне, як наведвальніку, хочацца пры гэтай нагодзе зрабіць наступную спасьцярогу: Чыкага славіцца беларускімі выстаўкамі на агульнаамэрыканскім форуме. Тут штагоду на агульнагарадзкіх фэстывалях экспануюцца беларускія калядныя звычаі, вялікодныя абрады, беларускае народнае творства, а сёлета — і наша слаўная мінуўшчына. І беларускія выстаўкі ня толькі ня ўступаюць, але часта й перавышаюць сваім мастацтвам падобныя экспазыцыі іншых нацыянальнасьцяў. Адзін амэрыканскі настаўнік гадзінамі разглядаў і перарысоўваў арыгінальныя, непаўторныя мастацкія забаўкі на беларускай ёлцы. Ды ня толькі дэкаратыўныя рэчы на ёлцы, а й іншыя рэчы, як дзівосныя вышыўкі, ды сам спосаб іх экспанаваньня адзначаюцца вялікім майстрэствам і творчым уяўленьнем.

Беларускае грамадзтва Чыкага мае па натуры сьціплых, ціхіх, але выдатных мастакоў — сям'ю Будзькаў. Гэта — сёстры Будзьчанкі, Ірэна Пануцэвіч і Людвіка Беленіс, ды іхны брат сьв. пам. Часлаў Будзька. Яго ўжо між намі няма, але праца яго засталася й дзеіць...

Гаворычы пра сям'ю Будзькаў, добра ўсьведамляю сабе вартасьць і значаньне іншых вядучых, поўных энэргіі й ініцыятывы, дзеячоў, якімі можа ганарыцца беларускае грамадзтва Чыкага.

### КРАДЗЕЖ З ЧАРНОБЫЛЬСКАГА ФОНДУ

У савецкім друку (прыкладам, у газ. «Зьвязда», 31.І.90: Для каго круіз?) пісалася пра абуральны факт разьмеркаваньня менскімі чыноўнікамі Турысцкага экскурсійнага вытворчага аб'яднаньня «Мінсктурыст» пуцёвак, прызначаных для тых, хто пацярпеў ад Чарнобыля. Больш за 900 пуцёвак, кожная коштам ад 1350 да 2825 рублёў, былі раздадзеныя кіраўніцтвам «Мінсктурыста» розным бюракратам і сваякам.

Пра гэты агідны акт падаў таксама брытанскі часапіс New Scientist у нумары за 3 сакавіка. Калі гэтае злачынства ня будзе высьветлена менскімі ўладамі і вінаватыя ня будуць пакараныя, гэта, пэўна-ж, не паспрыяе зборy грошай ахвярам чарнобыльскае радыяцыі, які праводзіцца цяпер на Захадзе.

### НА ФОНД АДРАДЖЭНЬНЯ БЕЛАРУСІ

Склалі ахвяры па 1000 даляраў наступныя асобы: С. і Л. Гутырчык, А. Міцкевіч, Н. і В. Сьнежка, Л. Трусэвіч, Б. і А. Даніловіч, М. і А. Абрамчык, А. і Н. Сільвановіч, Ф. Сак, а таксама Згуртаваньне Беларусаў Канады і парафія сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронце.

Таксама ахвяравалі грошы: Л. Шурак, Г. Тэдон, А. Тэлеш, К. і М. Верабей, Л. Цупрык-Трэмблэй, С. Стаськевіч, Я. Шымчак, Д. і М. Міцкевіч, Д. і Н. Камсовіч, М. і І. Александровіч.

Усім шчырая падзяка!
ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**Управа ФАБ**

# ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**Дастойнаму сьвятарству і ўсім багалюбным праваслаўным вернікам Беларускага Народу**

*«Праглынута сьмерць перамогаю»*
*(I Кар. 15:54)*

Хрыстос Уваскрос!

Дарагія Браты й Сёстры!

Канчатковая перамога Госпада нашага Ісуса Хрыста над сьмерцяй дае і нам перамогу. «Я ёсьць уваскрасеньне й жыцьцё» (Ян 11:25), кажа Госпад. Уваскрослы Хрыстос дае нам моц прадаўжаць жыць і дае запэўненьне, што сьмерць — не апошняе слова. Мы радасна ўсклікаем разам з ап. Паўлам: «Сьмерць! Дзе тваё джала? Пекла! Дзе твая перамога?» (1 Кар. 15:55). Сьв. ап. Павал прамаўляе да ўсіх пакаленьняў словамі: «Калі Бог за нас, дык хто супраць нас!» (Рым. 8:31).

Перад Сваім укрыжаваньнем Госпад хадзіў паміж народам — кніжнікамі, фарысеямі і звычайнымі людзьмі, як Чалавек. Ён навучаў людзей прыпавесьцямі. А сёньня мы бачым сілу славы ў Ягоным уваскрасеньні. Як магчыма словам выказаць, як розумам ахапіць значэньне сілы Божай? А добра ведаць значэньне яе! Сіла самаіснаваньня, сіла тварэньня, сіла вытрывальсьці, сіла перамогі, сіла веры. «Гэтая перамога, што перамагла сьвет, — кажа евангеліст Ян, — гэта вера наша» (1 Ян 5:4). І запраўды. Праз Хрыста і веру ў Яго Бог даў нам перамогу — перамогу над усім. Сёньня, сьвяткуючы ўваскрасеньне Ісуса Хрыста, мы, умацаваныя ў веры нашай, адзначаем падзеі, што закранаюць кожнага з нас.

Дарагія Браты й Сёстры! Сьвяткуючы ўваскрасеньне Госпада нашага Ісуса Хрыста, мы жывём таксама ў пярэдадні ўваскрасеньня нашага Беларускага Народу. Бо так як Ісус Хрыстос прайшоў празь зьдзек і быў бязь віны засуджаны ўладамі гэтага сьвету на сьмерць праз укрыжаваньне, гэтак і наш народ ўлады гэтага сьвету паняволілі, назьдзекаваліся над ім, паніштчылі выдатных сыноў і дачок ягоных, адабралі мову ды аблыталі хвальшам. Але так як Гэбрэі казалі Ісусу Хрысту «Мы насеньне Абрагамава і нічыімі нявольнікамі ня былі ніколі» (Ян 8:33) і ў гэтай веры ў Бога і ў свой народ вытрымалі два тысячагодзьдзі, так і наш народ глыбака ў сэрцы сваім перахоўвае дух свабоды, веру ў Хрыста і веру ў сваё ўваскрасеньне.

Ворагі нішчылі наш народ фізычна, вырывалі зь яго сьведамасьць беларускую, але народ памятаў словы Госпадавы: «Праўда вызваліць вас».

Кожнага году на Вялікдзень па ўсёй Беларусі людзі вітаюць адзін аднаго словамі: «Хрыстос Уваскрос! — Запраўды Ўваскрос!»

І мы дачакаліся ласкі Божае: народ наш адраджаецца і ўваскрасеньне ягонае нямінучае. Ажылі нашыя студэнты, пісьменьнікі, навукоўцы й грамадзкія працаўнікі, пераадолеўшы страх і пагрозы. Лепшыя сыны й дочкі нашага народу адважна выступаюць у абароне народных правоў і свабоды. Абудзіўся іхны свабодны дух і ўмацавалася вера ў Госпада Ісуса Хрыста, бож Ён уваскрос!

Дарагія мае, уваскрэсьне й наша сьвятая Беларусь, уваскрэсьне сьвятая Беларуская Праваслаўная Царква, у якой наш народ на сваёй сьвятой беларускай мове будзе славіць Усемагутнага Бога і ўсіх сьвятых. Вітайма-ж адзін аднаго ў дзень сёньняшні словамі радасьці й перамогі: «Хрыстос Уваскрос!» І разам зь незабыўным Сяргеем Палуянам вітайма ўвесь народ свой: «Зь вялікім сьвятам віншую Цябе! Зь вялікім сьвятам, вялікі, несьмяротны Беларускі Народзе!»

Хрыстос Уваскрос!

Вялікдзень 1990 г.
Таронта, Канада

**З ласкі Божай пакорны МІКАЛАЙ Архіепіскап і Першагіерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы**

---

**Ад Рэдакцыі:** Выдаваны ньюёркскім адзьдзелам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня бюлетэнь «Весткі й паведамленьні» (рэдактар і выдавец сп. Аляксандар Міцкевіч) зьмясьціў у № 191 (красавік 1990) факсымільны тэкст ніжэй паданай малітвы.

## *МАЛІТВА ЗА БЕЛАРУСЬ*

*У імя Айца, і Сына, і Духа Сьвятога.*

*Божа ўсемагутны, адхілі напасьці ад Бацькаўшчыны нашай Беларусі, захавай на вякі вечныя край вольным, зямлю плоднай, як маці вагітная, паветра чыстым, ваду здаровай, недры непарушанымі, каб цешылася з ласкі Тваёй усё жывое: і чалавек, і птушка, і зьвер, і рыба, і малая кузурка.*

*Ойча Нябесны, блаславі люд беларускі як у краю, так і далёка па-за яго межамі. Захавай ад варожага ўціску, вайны, голаду, мору, агню пякельнага, патопу, д'ябальскай сілы чарнобыльскай, а так-жа ад брацкай нязгоды.*

*Блаславі на еднасьць і ўзаемадапамогу люд беларускі ў кожным месцы зямлі Тваёй, накіруй на шлях дабра і справядлівасьці, спагады да бліжніх і далёкіх нашых.*

*Дапамажы нам захаваць у сэрцах веру нашу і славіць Сьвятое Імя Тваё на мове нашай беларускай.*

*Дай спазнаць літасьць Тваю, даруй нам грахі нашыя: злабу і гультайства, распушчэнства і хцівасьць, а роўна-ж і абыякавасьць да лёсу Беларусі і да гора людзкога. Адвядзі нас ад спакусы здрады і нявернасьці, крывой прысягі, слоў аблудных і іншых учынкаў, што губяць душы нашы і нясуць сорам Краю нашаму. Крый нас, Божа, ад грэху халуйства, ад прыніжэньня годнасьці Бацькаўшчыны і народу беларускага.*

*Не пакарай нас бяспамяцтвам і ня дай забыцца мовы нашай беларускай, гісторыі і традыцыяў, а дай сілы і шчырасьці зь любоўю і шанаваньнем прымнажаць спрадвечнае і высакароднае, што стварылі да нас продкі нашы.*

*Божа магутны, Божа міласьцівы, пашлі нам сілы і цярпеньня ў стараньнях нашых аб росквіце і волі Бацькаўшчыны нашай Беларусі, захавай яе нам вякі вечныя. АМАН.*

З найніжэйшай просьбай да беларускіх сьвятароў асьвяціць і блаславіць малітву гэту
Эл. МАМАЧКА

Баранавічы, 1990 г.

---

а. Канстантын

# БПЦ: ПРЫЗНАНЬНЕ ГІСТАРЫЧНЫХ ФАКТАЎ

Апошніх пераменаў у рэлігійным жыцьці на Беларусі нельга ня прызнаць — сьледам за Мітрапалітам Філарэтам — «гістарычнымі» (гл. «Б-с» № 367, 368). Назоў «Беларуская Праваслаўная Царква — Экзархат Маскоўскага Патрыярхату» — гэта істотны паварот да гістарычнае праўды. Гэта самае трэба сказаць і пра аднаўленьне епархіяльных структураў, якія ў жыцьці Царквы становяць тое, што для цела шкілет, а для даху кроквы.

Хрысьціянства на Беларусі, спачатку выключна ў бізантыйскім абрадзе, існавала й плённа разьвівалася яшчэ ў часе, калі Масквы зусім ня было. Полацкая епархія была заснаваная ў 992 годзе, Тураўская — у 1114, Смаленская — у 1137. У XIV ст. існавала Беларуская Аўтакефальная Мітраполія з цэнтрам у Наваградку. Матар'яльная і духоўная культура першых вякоў хрысьціянства на Беларусі нядвусэнсава пацьвярджае ейную адасобленасьць, незалежнасьць і факт, што Царква на Беларусі была нацыянальнай, Беларускай Царквою.

Выказаны Мітрапалітам Філарэтам намер давесьці Царкву «да большай самастойнасьці і лепшай арганізацыі згодна з традыцыямі ўласьцівымі міранам і духавенству Беларусі» — гэта нішто іншае як афіцыйнае прызнаньне гістарычных фактаў. Прызнаюцца таксама і «беларускія традыцыі», бо-ж нельга не адзначыць, што незважаючы на зьдзек і перасьледаваньне ўсіх праяваў беларускасьці (зрэшты, дружна з двух бакоў, усходу й захаду) культурная, моўная, а ў даным выпадку рэлігійная адасобленасьць ня была зьнівэляваная. Яна нагэтулькі відавочная, што стала магчымым аднаўленьне старадаўных епархіяў — не дзеля іхнае даўнае пышнасьці, але дзеля сучаснага духоўнага стану.

«Сама рэчаіснасьць паставіла перад царкоўнымі коламі неабходнасьць пераменаў у арганізацыі праваслаўнага жыцьця ў Беларусі», кажа Мітрапаліт Філарэт. Вось-жа гэтая рэчаіснасьць — гэта рэлігійны і нацыянальны ўздым на Бацькаўшчыне. УзДыму гэтаму ніхто ня спрыяў, нават тыя, што елі беларускі хлеб. Ні Масква, ні Царква не хацелі бачыць, што пад пажаданым для іх вонкавым покрывам здаўна бурліць іншая плынь. Устрымоўвацца-ж яе ня тое што сорамна, але ўжо боязна — супоць цячэньня, калі гэтае цячэньне магутнее, ня можа плыць ніякае судна, ні рулявы ня можа ісьці супраць экіпажу, калі хоча заставацца рулявым.

---

Зьніч

### *ГІМН УВАСКРОШАНЬНЯ*

***Дзесяць стагодзьдзяў справа Хрыстова***
***на Беларусі крывавіць у сэрцах.***
***Дзесяць стагодзьдзяў мусіць нанова***
***біцца зь нячыстым у паняверцы.***

***Хто з нас адважыцца — сяньня і людна —***
***выйсьці на Плошчу і перахрысьціцца?..***
***Хто бараніць ад глумленьня — паўсюдна! —***
***Імя Сьвятое не забаіцца?..***

***Людцы над процьмаю самазьнішчэньня***
***ўславім Хрыста, што за нас пакараны!***
***Кожны — далучыцца да ўваскрашэньня...***
***кожны — паклікааны...***
***кожны — абраны...***

### *«ФОС» № 3-4/90*

У нумары гэтага двумесячнага часапісу моладзі Беластоцка-гданьскай епархіі Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы зьмешчаныя матар'ялы:

Верш Зьніча, верш М. Багдановіча; А. Шмэман — Вялікі пост (фрагмэнты); Архімандрыт Афанасій — Напамінаньні перад споведзьдзю; ігумен Афанасій — Роздум у Дні Страснае Сядзьміцы; Антон Міранавіч — Умовы фармаваньня беларускай сьвядомасьці праваслаўнага асяродзьдзя на Беласточчыне ў XX ст.; хроніка; малітва «Прад Табою, мой Бог» (тэкст і ноты, апрац. Г. Піхуры).

### *«ХРЫСЬЦІЯНСКІЯ НАВІНЫ» № 4(20)*

У гэтай публікацыі Ватыканскага радыё зьмешчаныя матар'ялы:

Др. В. Сенкевіч — Родная мова ў сьвятынях (частка 6); хроніка дзейнасьці Сьвяцейшага Айца; Вялікдзень; Беларуская багаслужба ў Варшаве; Новая праца па нашай навейшай гісторыі (рэц. на кнігу др. Юрыя Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй»).

### *«ЗВАЖАЙ» № 1(57)*

У сакавіковым нумары часапісу Беларускіх Вэтэранаў (Таронта, Канада) зьмешчаныя матар'ялы:

К. Акула — Ідэя, якой прыйшла пара́; Народ кліча нас на помач (Чарнобыль); «Рускай Праваслаўнай Царкве» ў Беларусі ня месца!; К. Акула — І будзе нам сорамна (пра дапамогу вольным беларускім літаратарам); Алег Бембель (Зьніч) прыняты ў Саюз Пісьменьнікаў; Віншуем Пётру Конюха; С. Пчала — 69-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну; натакі, абвесткі ды іншае.



### *АРГАНІЗАЦЫЙНЫ ЗАХАД ЖУРНАЛІСТАЎ БССР*

Журналісты Беларускага радыё й тэлебачаньня зьвярнуліся да сваіх калегаў у рэспубліцы з заклікам згуртавацца супраць самаволі рэспубліканскага партапарату ў сродках інфармацыі ды некампэтэнтнага ўмешваньня ў іхную дзейнасьць. Апэлюючы да журналісцкае салідарнасьці, аўтары звароту прапануюць стварыць незалежнае згуртаваньне, першым захадам якога павінна стацца дамаганьне, каб ВС БССР прыняў закон аб друку.

Мікола Івануў

# МОСТ

*Гэты артыкул зьявіўся ў першым нумары беларускай газэты «Грунвальд», што пачала ў студзені сёлета выходзіць у Таліне ў Эстоніі. Аўтар артыкулу — гісторык і публіцыст, жыве цяпер у Польшчы.*

Посьпех беларускага нацыянальнага адраджэньня абумоўлены прагрэсам рэальнай перабудовы ў маштабах усёй краіны посьпехам гарбачоўскіх рэформаў. Алё ёсьць у нашай адраджэнскай справе аспэкт, дзе рэальныя зрухі найменш відавочныя, дзе партбюракратыі ўдаецца ўтрымліваць «старыя добрыя» застойныя традыцыі. Гаворка тут пра адносіны да беларускай эміграцыі і, перад усім, да той яе найбольш актыўнай і сьвядомай часткі, якую можна акрэсьліць тэрмінам «эміграцыя палітычная».

Унівэрсальны рэцэпт дасягненьня посьпеху для амаль кожнага нацыянальнага руху — гарманічнае супрацоўніцтва паміж мясцовымі сіламі і эміграцыяй. Пры гэтым даволі часта палітычная і іншая дзейнасьць эміграцыі мае вялікі, а нават і вырашальны ўплыў на ход рэвалюцыйнай барацьбы. Клясычны прыклад тут дзейнасьць У. І. Леніна і партыі бальшавікоў у перыяд барацьбы з царызмам. Ленін вярнуўся на радзіму пасьля амаль 18-гадовай эміграцыі і за няпоўныя 6 месяцаў мог сьвяткаваць са сваімі сябрамі перамогу ў самай магутнай з супрэчлівых рэвалюцый XX стагодзьдзя. Мала хто ведае, што менавіта эміграцкія дасьветчаньні Леніна (амаль 14 з 18 гадоў ён пражыў у Швайцарыі, краіне вядомай усяму сьвету сваім найбольш дэмакратычным і эфэктыўным вырашэньнем нацыянальнага пытаньня) адбіліся непасрэдна на парэвалюцыйных лёсах Беларусаў. Беларусізацыя, якая ажыцьцяўлялася ў Рэспубліцы ў 20-я гады і была складовай часткай так званай «ленінскай нацыянальнай палітыкі», праводзілася з улікамі швайцарскага вопыту і вельмі нагадвала швайцарскую мадэль кантанальнай аўтаноміі. І зусім сьвежы прыклад. Цяжка сказаць, ці была-б апошняя перамога польскай «Салідарнасьці» на выбарах настолькі абсалютная і бязумоўная, калі-б не відавочная дапамога, дый непасрэдны ўдзел антыкамуністычнай эміграцыі ў перадвыбарчай кампаніі. Эміграцыя арганізавала «Салідарнасьці» значную фінансавую падтрымку. Яна накіравала на адрас грамадзкіх выбарчых камітэтаў «Салідарнасьці» сотні сучасных друкарскіх машын, рознай камп'ютарнай тэхнікі, сотні тон паперы і да т.п.

Якую-ж ролю можа адыграць у нашым адраджэнскім руху беларуская эміграцыя? І ці здольная яна ўзваліць на свае плечы цяжар актыўнага ўдзелу ў беларускім нацыянальным адраджэньні? Дый ці здольныя мы, каб без засьцярог, як роўных, прыняць нашых суайчыньнікаў за мяжой у якасьці паўнапраўных удзельнікаў нашай беларускай перабудовы? Відаць, з гэтага апошняга пытаньня і трэба пачаць высьвятленьне праблемы. Перш за ўсё нам самім трэба пераадолець уплывы спадчыны сталінскай шматгадовай індактрынацыі, пераадолець недавер, падазронасьць і іншыя духовыя стэрэатыпы ў адносінах да Беларусаў замежжа. Праблема гэтая не такая простая, як магло-б здавацца зь першага погляду. Тут недастаткова нейкай гучнай дэклярацыйнай заявы. Неабходна ўнутранае пераасэнсаваньне ўкаранёных з дамапогаю самой сыстэмы нашага жыцьця стэрэатыпаў. Трэба пераасэнсаваць нават такія «сьвятыя» ісьціны, як лёс Беларусаў у гады другой сусьветнай вайны, зразумець, што пераважная большасьць з так званых «саўдзельнікаў у злачынствах» на самой справе зьяўляюцца такімі самымі ахвярамі спачатку сталінізму, а затым фашызму, як і тыя, што ляжаць тысячамі ў курапатах і хатынях. Трэба зразумець, што тысячы Беларусаў пайшлі служыць да Немцаў у надзеі, што новы парадак, які-б цяжкі ён ні быў, будзе лепшы за нялюдскі сталінізм; што сваёй крывёй і самаадданасьцю можна будзе забясьпечыць нармальнае жыцьцё і нейкую, няхай абмежаваную, але свабоду свайму народу. Адказнасьць за тое, што дзясяткі, а нават сотні тысяч Беларусаў пайшлі ў БКА (Беларускую Краёвую Абарону), нясе перш за ўсё сталінізм, які ў перадваенныя гады разгарнуў сапраўдны антыбеларускі генацыд. У той час загінула каля 2 млн. нашых землякоў. Дарэчы, галоўная канцэпцыя беларускага ўдзелу ў II сусьветнай вайне, сфармуляваная ў 1949-1950 гг. самым Цанавам у яго «капітальнай» двухтомнай працы, прысьвечанай гэтаму пытаньню, застаецца практычна на сёньняшні дзень у нязьменным выглядзе на «ўзбраеньні нашай гістарычнай навукі». Бэрыеўскі намесьнік і сёньня, больш як 30 гадоў пасьля сваёй ганебнай сьмерці, застаецца галоўным аўтарытэтам у пытаньні «беларускіх буржуазных нацыяналістаў», а партыйныя прапагандысты з ударнай групы С. Паўлава бязь лішняга шуму актыўна карыстаюцца ягонай інфармацыяй.

Для абмежаванай групы гісторыкаў ды іншых інтэлектуалаў, што мелі магчымасьць пазнаёміцца з сапраўднымі дакумэнтамі, якія датычаць ваенных лёсаў беларускага народу, ілжывасьць цанаваўскіх канцэпцый відавочная. Але для тысячаў радавых удзельнікаў Беларускага Народнага Фронту спробы нераасэнсаваньня гісторыі мінулай вайны пакуль ні што іншае, як намаганьні кінуць цень на сутнасьць гэраічнай барацьбы беларускага народу супроць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Нэўтралізацыя падобнай шматгадовай бяспрыкладнай індактрынацыі магчымая толькі з дапамогай шырокай растлумачальнай кампаніі. Мае значэньне тут і пазыцыя саміх эмігрантаў, якія павінны, на нашу думку, выказваць больш прыхільнасьці й разуменьня для мэтаў і задач БНФ «Адраджэньне». Іх шчырасьць і самаадданасьць павінны быць відавочныя ў адраджэнскай дзейнасьці на Бацькаўшчыне.

У той надзвычай цяжкай сытуацыі беларускага адраджэнскага руху, калі паасобныя элемэнты нацыянальнай культуры і нацыянальнай самасьвядомасьці трэба адбудоўваць амаль што нанова, роля беларускай эміграцыі можа і павінна быць значная. Менавіта там, на эміграцыі, захавалася ў нескажочым сталінскай рэформай 1933 году выглядзе беларуская мова, там існуе беларускамоўная праваслаўная царква, дзейнічае беларуская вуніяцкая царква са сваім вядомым лёнданскім цэнтрам. Там у рамках дасьледаваньняў ньюёркскага Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва распрацаваныя шматлікія навуковыя і грамадзка-палітычныя тэмы, што ў нас лычыліся і, нягледзячы на перабудову, лічацца сёньня табу. Парадаксальна, але факт: ня мы, а нашы суайчыньнікі на Захадзе выказалі надзвычайную адпорнасьць на дзеяньне шматлікіх аб'ектыўных і суб'ектыўных асыміляцыйных фактараў. З упорам маньякоў арганізоўвалі яны па ўсім в сьвеце нядзельныя беларускія школы для сваіх дзяцей, рабілі ўсё магчымае, каб і на чужыне беларуская мова не загінула, каб мела сваю будучыню ў няспрыяльных эміграцыйных варунках. І, напэўна, не ў аднаго мяне балела душа, калі бачыў, як дзеці беларускіх эмігрантаў, якія ўпяршыню крочылі на зямлю сваіх бацькоў, зьвярталіся да нас на чыстай, нескажонай русыцызмамі беларускай мове, а мы, зь цяжкасьцю падбіраючы паасобныя беларускія словы, намагаліся неяк падтрымліваць зь імі размову. Яшчэ крок на шляху сталінска-брэжнеўскага сацыялістычнага будаўніцтва і мова нашага народу магла-б захавацца толькі на эміграцыі. Нездарма, відаць, адзін з маіх сяброў на пытаньне аб развіцьці беларускамоўнай сярэдняй адукацыі адказаў: «На сьвеце сёньня існуюць 2 поўныя сярэднія беларускія школы: адна ў Бельску, другая ў Гайнаўцы. Абедзьве ў Польшчы».

Вось чаму толькі асэнсаваўшы глыбіню нашага падзеньня, пачуўшы сапраўдны боль і сорам з прычыны нашай падатлівасьці на грубую русыфікацыю, мы можам зразумець тое месца, якое належыць беларускай эміграцыі ў нашым адраджэньні.

Скарыстаўшы з культурных і іншых дасягненьняў беларускай эміграцыі, наш рух можа ня толькі значна ўзбагаціць сябе, але й ашчадзіць шмат часу і чалавечае энэргіі ў такім важным пэрыядзе разьвіцьця беларускага народу. І бадай што самае галоўнае, што эміграцыя магла-б даць нам — гэта вопыт і дасьветчаньне функцыянаваньня ў варунках заходняй дэмакратычнай сыстэмы. Падобны нерукатворны мост паміж дзьвюма часткамі беларускага народу можа і павінен прынесьці рэальную карысьць справе нацыянальнага адраджэньня Беларусаў.

### «ЗАПІСЫ БІНіМ», кн. 19(1989)

Зьмест:


**Thomas E. Bird.** Naša Niva. An Introductory Word.

**В. Сенькевіч.** Вытокі беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі і «Наша Ніва».

**А. Баршчэўскі.** Ігнат Дварчанін — дасьледнік нашаніўскай літаратуры.

**Вітаўт Кіпель.** Эміграцыя зь Беларусі й газэта «Наша Ніва».

**Guy Picarda.** Questions surrounding a Byelorussian Liturgy.

**Г. Няміга.** Беларускае школьніцтва пад нямецкай акупацыяй Беларусі ў вайну 1941-1944 гг.

**Zina Gimpelevich-Schwartzman.** Uladzimir Karatkevich and his Influence on the Contemporary Byelorussian Renaissance.

**Рыгор Максімовіч.** Пра юрыдычную лексыку старой беларускай мовы.

**Леў Акіншэвіч.** Балонкі з успамінаў.

**Зора Кіпель.** Эзра Паўнд — паэт-выгнанец.

Кнігапіс.

**В. Кіпель.** Хроніка навуковага жыцьця.


### *НОВЫЯ КНІГІ*

У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва можна набыць гэткія новыя кнігі:

**Др. Вітаўт Тумаш**, укладальнік. ПЯЦЬ СТАГОДЗЬДЗЯЎ СКАРЫНІЯНЫ: XVI-XX ст. ($ 35).

**Анатоль Бярозка**. АДЗІНАЦЦАЦЬ ВЕРШАЎ ($ 3).

**Др. Вітаўт і Зора Кіпель**, укладальнікі. БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦЬ (у ангельскай мове). Хрэстаматыя й бібліяграфія. ($ 35).

**Зубараў Леанід**. МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. ($ 10).

**Вітаўт Мартыненка і Анатоль Мяльгуй**. ПРАз РОК-ПРЫЗМУ. ($ 25).

ЗАПІСЫ, кн. 19. ($ 20).

BINiM
230 Springfield Ave.
Rutherford, NJ 07070

*Ліст у Рэдакцыю*

## РЭГАБІЛІТАВАЦЬ — ХТО КАГО?

Алеся Барскага ў «Ніве» чатыю даўно. Прызнаюся, што шаную яго як паэта й люблю як чалавека-публіцыста. Але кожны чалавек, у тым ліку й Барскі, мае свае «мяккія месцы». Наогул я люблю чытаць замалёўкі А. Барскага «На мяжы». Часамі зь ягонамі думкамі не пагаджаюся, але заўсёды шаную ягоны асабісты пагляд.

Ды вось у першай частцы свайго цыклю «Зьняць кляймо» («Ніва №№ 7-10) Барскі ў канцы напісаў нешта такое, што беларускаму эмігранту, далікатна кажучы, цяжка зразумець... Ён піша: «Лічу, што сапраўдную большасьць гэтых людзей трэба афіцыйна рэгабілітаваць, зьняць зь іх кляймо злачынцаў і здраднікаў і залічыць у шэрагі нармальных сыноў і дачок Радзімы».

Ці пісаў гэтыя словы Алесь пад чаркаю ці пад палкаю, няведама, але тут пан Баршчэўскі сыта пераборшчыў. Алесь хоча «разграшыць», як той польскі ксёндз, нейкую «сапраўдную, большасьць» беларускае эміграцыі, а «меншасьць» пакінуць у «здрадніках і злачынцах». Справа даволі далікатная, бо калі дзяліць абухам беларускую эміграцыю, дык хочацца ведаць, што гэта за «меншасьць». Чаму, для прыкладу, не назваць, хто менавіта належыць да тае «несапраўднае» другое групы эмігрантаў.

Дарэчы, хто мае рэгабілітаваць беларускую эміграцыю? Менскі «апарат»? Ды быць здраднікам такога антынароднага, нялюдзкага, чужога, накінутага сілаю рэжыму, які панаваў ды пануе ў Менску, павінна быць гонарам і патрыятычным абавязкам кожнага Беларуса. Для беларускае эміграцыі было-б вялікаю зьнявагаю, калі-б менскія мураўёвы дадумаліся «разграшыць» яе. Пытаньне тут стаіць: хто каго павінен рэгабілітаваць?..

Беларуская эміграцыя — гэта народ добрасумленны, патрыятычны, нацыянальна сьведамы, пабожны, незалежны, заможны й адукаваны. Ён ніяк не патрабуе найменшае спагады менскае вандэі.

Але А. Барскі паставіў кропку над «і» ў сваёй апошняй заценмы, дзе ён піша: «Здаецца мне, што не павінны праводзіць узаемнага байкоту «Беларуса» ў БССР і «Голасу Радзімы» на Захадзе». «Голас Радзімы» — орган... раўняць зь «Беларусам»? Лепш, давай ня будзем!..

Наогул-ж замалёўкі «Зьняць кляймо» добрыя, каб ня гэтыя дзьве лыжкі дзёгцю ў бочцы мёду.

**Э. Б.**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

Ахвяры на Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва склалі наступныя асобы:

| | |
|---|---|
| Беларусы г. Кліўленду | ам. д. 500 |
| А. Асіповіч | 500 |
| Ю. Попка | 100 |
| А. Шукелайць | 50 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| Усяго | 1200 |

*На перавыданьне ў памяць А. і Н. Орсаў граматыкі Б. Тарашкевіча*

| | |
|---|---|
| А. Сільвановіч | д. 25 |
| З. Груша | 25 |
| К. Калоша | 50 |
| С. Карніловіч | 50 |
| В. Яцэвіч | 20 |
| Сям'я Каляда-Сьмірновы | 30 |
| М. Цялушэцкі | 20 |
| Я. Ханёнка | 20 |
| Усяго | 240 |

# 72-Я ЎГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

*(Працяг зь 1-й б.)*

## НЬЮ-ЁРК — НЬЮ-ДЖЭРЗЫ

Сьвяткаваньне адбылося ў нядзелю 25-га сакавіка ў Гайленд-Парку ў царкве Жыровіцкае Божае Маці і ў Нью-Брансьвіку ў залі гатэлю Рыджэнсы Гаят.

Урачыстую багаслужбу адслужыў Першагіерарх БАПЦ Архіепіскап Мікалай у суслужэньні архімандрыта а. Карпа й а. Васіля. З Уладыкам Мікалаем прыбылі на сьвята з Таронта прадстаўнікі Згуртаваньня Беларусаў Канады, старшыня ЗБК сп. Мікола Ганько і сябра ўправы сп. Лявон Паплаўскі, а таксама старшыня Канадыйскага Таварыства «Беларусь» сп. Алесь Палескі.

Сьвяточную акадэмію ў гатэлі Гаят адчыніў уступным словам заступнік старшыні БАЗА, ён-жа адказны за арганізацыю сьвяткаваньня, сп. Юрка Азарка.

Праграма пачалася прыгожай інсцэнізацыяй — выхадам на сцэну 26-х асобаў моладзі ў нацыянальнай вопратцы пад гукі песьні «Люблю наш край» (акардэон Віталя Макаца).

Праклямацыі Дня беларускае Незалежнасьці губэрнатарамі штатаў Нью-Джэрзы, Пэнсыльванія і Канэктыкет ды мэрам гораду Нью-Ёрку прачыталі Нона Азарка, Дарота Рыжы, Коля Рамана і Павал Рамана. Ю. Азарка, вядучы цырымоніі, прывітаў гасьцей. З прывітальнымі прамовамі выступілі таксама прадстаўнік БНФ Алесь Жлобін, рэжысэрка Беларускага тэлебачаньня зь Менску сп-ня Вацлава Вярбоўская і сп. Мікола Ганько. Былі прачытаныя пісьмовыя прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў з ЗША ды іншых краінаў. Інфарматыўныя рэфэраты аб бягучых падзеях на Бацькаўшчыне і ходзе разьвіцьця амэрыканска-савецкіх дачыненьняў ды ролі беларускае эміграцыі прачыталі др. Юрка Кіпель і сп. Антон Шукелайць.

У вельмі ўдалай мастацкай частцы выступілі ўлюбенец публікі Данчык зь песьнямі, Галіна Русак зь вершам Натальлі Арсеньневай і Вацлава Вярбоўская з купалаўскімі вершамі ды ансамбль «Васілёк» пад кіраўніцтвам Алы Орса-Рамана зь беларускімі народнымі танцамі.

Удзельнікі сходу аклямацыяй ухвалілі зварот Беларусаў Амэрыкі да Беларусаў на Беларусі.

Урачыстасьць закончылася супольным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

## САЎТ-РЫВЭР

Напярэдадні 72-й гадавіны Сакавіка перад будынкам гарадзкой управы быў урачыста ўзьняты разам з амэрыканскім сьцягам і бел-чырвона-белы сьцяг. У гэтай урачыстасьці ўзялі ўдзел група Беларусаў і мясцовыя ўрадаўцы: мэр Эндру Брэсна і радныя Джордж Сэраквас (нашчадак эмігрантаў-беларусаў), Вільям Райхэнбах і Фрэд Разэлі. Узьняўшы сьцяг, удзельнікі працэдуры накіраваліся ў залю Беларуска-Амэрыканскага Цэнтру, дзе для іх быў падрыхтаваны сьціплы пачастунак.

У дзень самога сьвята, у нядзелю 25 сакавіка, у царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай пасьля Літургіі а. Мечыслаў Брынкевіч у суслужэньні а. Сьвятаслава Каўша адслужыў малебен за беларускі народ. У часе малебну сябры Арганізацыі Беларускіх Вэтэранаў трымалі беларускі, вэтэранскі і амэрыканскі сьцягі. Малебен закончыўся адсьпяваньнем царкоўным хорам малітвы «Магутны Божа».

Папаўдні ў залі Беларуска-Амэрыканскага Цэнтру адбылася ўрачыстая акадэмія, на якой, акрамя шматлікіх Беларусаў, прысутнічалі мясцовыя ўрадаўцы.

Акадэмія, якую ад імя Беларускага Кангрэсавага Камітэту адчыніў сп. М. Бахар, пачалася адсьпяваньнем амэрыканскага гімну, пасьля чаго сп. Бахар расказаў аб сутнасьці сьвята, закранаючы сучаснае становішча ў сьвеце.

З прывітальнымі прамовамі на акадэміі выступілі: асэмблімэн Джэймс МэкГрыві, які зачытаў праклямацыю губэрнатара Нью-Джэрзы Флёрыё і адмысловую рэзалюцыю ў гонар і прызнаньне нашай царквы ў Саўт-Рывэры, выдадзеную Генэральнаю Асамблеяй штату па ягонай (МэкГрыві) ініцыятыве. Мэр Саўт-Рывэру прачытаў выдадзеную ім праклямацыю з нагоды сьвята. Сп. Бахар прачытаў надасланыя прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў у Зах. Нямеччыне, Вялікай Брытаніі, Аўстраліі, ЗША.

Зьмястоўны рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. Расьціслаў Завістовіч з Вашынгтону.

Паэты Масей Сяднёў, Янка Золак, Міхась Кавыль і паэтэса Вілачка Саўчанка прачыталі свае вершы, а сп-ня Ірэна Цупрык прадэклямавала верш паэта зь Беларусі. Выступіў зь песьнямі царкоўны хор пад кіраўніцтвам сп. Аўгена Скаўронскага.

Закончылася акадэмія адсьпяваньнем гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**Яз. Дольны**

## ЛЁС-АНДЖЭЛЕС

Як і папярэднімі гадамі, сьвяткаваньне, арганізаванае сьвяткавальным камітэтам, адбылося ў залі Украінскай каталіцкай царквы ў Галівудзе. Праграму, пасьля адыграньня амэрыканскага гімну й малітвы «Магутны Божа», адчыніў сп. Часлаў Найдзюк, прывітаўшы ўсіх прысутных, у тым ліку др. Альгерда Клейнота, старшыню арганізацыі Амэрыканцы за Свабоду Паняволеных Народаў.

Сп. Юрка Станкевіч прачытаў англамоўныя прывітаньні, атрыманыя стараньнямі старшыні Беларускага Рэспубліканскага клюбу ад губэрнатара Каліфорніі Дж. Дукмэнджана, ад сэнатара П. Вільсана, кангрэсмэна Д. Рорбахэра і штатнага сэнатара Р. Бэрклі. Прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў у Нью-Ёрку, Чыкага, Саўт-Рывэры, Канадзе, Аўстраліі прачытала сп-ня Юзя Найдзюк. З прывітальнай прамовай выступіў др. Клейнот.

Рэфэрат на тэму дня прачытаў др. Янка Запруднік, рэдактар газэты «Беларус», запрошаны на сустрэчу сп. К. Вайцяхоўскім.

З дэклямацыямі беларускіх вершаў выступілі сп-ні Каця Вініцкая і Вера Вуіч.

Сп. Ч. Найдзюк падаў весткі аб Беларусах у Вільні зь ліста суродзічкі.

На заклік аб падтрыманьні беларускага выдавецтва ўдзельнікі адказалі грашовымі ахвярамі, якія сабрала сп-ня К. Вініцкая.

Супольны пачастунак прайшоў у прыязнай, вясёлай атмасфэры са сьпевам беларускіх песьняў ды пры абмене інфармацыяй і друкамі.

Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**Ч. Н.**

## ЧЫКАГА

Беларуская Амэрыканская Нацыянальная Рада ладзіла сьвяткаваньне 25 сакавіка ў царкоўнай залі Беларускай праваслаўнай парафіі Сьв. Юрыя. Айцец Р. Кулк адслужыў малебен, у часе якога стаяла ганаровая варта са сьцягамі. Сьцягі трымалі сп. Яўген Макарэвіч і сп. Уладзімір Яканюк. Сьвяточную акадэмію вёў малады беларускі юрыст сп. Ул. Яканюк. Зьмястоўны даклад, прысьвечаны 72-ім угодкам Акту 25-га Сакавіка, прачытаў сп. Пётр Каленік. Праклямацыі Дня беларускае Незалежнасьці ў штаце Ілінойі і ў горадзе Чыкага зачытаў сп. Юра Каленік. Сп. У. Яканюк прачытаў прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў з усіх куткоў сьвету і пару слоў сказаў пра Беласточчыну. Зьмястоўны рэфэрат, прысьвечаны тэме дня, прачытаў малады інжынер сп. Валянтын Пацэвіч. Дэклямавалі беларускія вершы сп. Міхась Каленік і сп. Мікола Латушкін.

Прыемная акадэмія закончылася супольным адсьпяваньнем беларускага гімну.

**П. Негода**

## МЭЛЬБУРН, АЎСТРАЛІЯ

Сакавіковыя ўгодкі былі зладжаныя Беларускім Цэнтральным Камітэтам супольна з парафіяй БАПЦ. Сьв. Літургію й малебен адправіў а. протапр. Аляксандар Кулакоўскі. У сваёй патрыятычнай пропаведзі ён гаварыў аб значаньні Акту 25 Сакавіка, заклікаў моладзь працягваць вызвольную справу бацькоў.



*Мастацкі гуртом «Каліна» на сьвяткаваньні ў Мэльбурне: (зьлева) Вера, Тамара, Тамара, Надзя, Ірэна, Люба, Ліда.*

У прыцаркоўнай залі адбылася акадэмія, якую адчыніў і вёў сп. П. Гуз. Сп. Гуз прачытаў прывітаньні ад арганізацыяў і асобаў у Аўстраліі ды ў іншых краінах. З прывітаньнем ад Рады БНР выступіў сп. С. М.

Сп. У. Сідлярэвіч прачытаў рэфэрат на тэму дня, шырака насьвятляючы змаганьне Беларусаў за сваю незалежнасьць, дзейнасьць Рады БНР і Беларускай Цэнтральнай Рады да сёньняшняга дня.

У мастацкай частцы выступіў гуртом «Каліна» з чатырма беларускімі песьнямі пад акампанімэнт гітараў. Сваім выступам сьпявачкі глыбока кранулі сэрцы слухачоў, якія дзякавалі ім бурнымі воплескамі.

Зь ініцыятывы гуртка «Каліна» іхная кіраўнічка сп-ня Т. Басарыновіч сабрала 135 даляраў на чарнобыльскае конта. Сп. А. Груша паведаміў, што ў чарнобыльскім фоньдзе ёсьць ужо 16 тыс. даляраў і прасіў не паслабляць акцыі збору ахвяраў.

Сп. Груша прадэклямаваў верш М. Машары, прысьвечаны Сакавіку. З двума вершамі выступіла сп-ня Вера Шайпак.

Пасьля дзяўчаты з гуртка «Каліна» прыпаднесьлі а. Аляксандру, свайму вялікаму прыхільніку й апякуну, торт і падарункі з нагоды ягонага 65-годзьдзя. Прагучэла «Многая лета» юбіляру, які быў вельмі крануты гэтай увагай.

Сьвяткаваньне закончылася нацыянальным гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

*(Паводля карэспандэнцыяў М. С. і Паўлюка Дуброўскага)*

## АДЭЛЯЙДА, АЎСТРАЛІЯ

Беларускае Аб'еднаньне й парафія Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла адзначылі ўрачыста ў нядзелю 25 сакавіка Дзень незалежнасьці Беларусі. Царква да гэтай нагоды была прыгожа прыбраная кветкамі. Кожны з прыхаджанаў адчуваў сьвяточны настрой. Шмат хто апрануўся ў вышываны кашулі й блюзкі.

Службу Божую адслужыў настаяцель царквы а. Міхась Бурнос. Царкоўным хорам кіраваў сп. Уладзімер Калесьнікові. Па сьв. Літургіі быў адслужаны малебен у беларускай мове за здароўе Беларусаў, што жывуць на эміграцыі і на Бацькаўшчыне. Стаяла сьцяжная варта. Малебен закончыўся малітвай «Магутны Божа». Сярод малельнікаў быў і госьць зь Менску.

Другая частка сьвяткаваньня адбылася ў прыцаркоўнай залі, дзе пасьля адсьпяваньня беларускага нацыянальнага гімну сп. М. Калесьніковіч прачытаў прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў, а таксама прыгожы рэфэрат на тэму дня.

Застольная бяседа са смачнай ежай суправаджалася сьпевамі пры вясёлым настроі.

**У. Акавіты**

*(У наступным нумары будуць зьмешчаныя паведамленьні пра сьвяткаваньні ў Лёндане, Рычманд-Гіле, Клііўлендзе, Чыкага, Пэрце ды ў іншых месцах).*

### БЕЛАРУСКАЯ ВАЛЮТА

Газэта «Зьвязда» (1.IV.90) падала, што ў Беларусі «будзе ўведзеная рэспубліканская грашовая адзінка — дукат. Будуць выпушчаныя плястмасавыя (у мэтах эканоміі мэталю) манэты вартасьцю ў дукат, паўдуката, і чвэрць дуката, а таксама папяровыя купюры ў два, сем, сто пяцьдзесят, тысячу і пятнаццаць тысячаў дукатаў. Плянуецца таксама наладзіць выпуск падарункавых грошай. Іх будуць чаканіць у мэтале або друкаваць на паперы палепшанай якасьці. Курс дуката ў адносінах да рубля будзе 10 рублёў — 5 дукатаў. Дукат будзе абавязкова канвэрсуемы».

